План агітацыйна-масавай работы па раёнах дашлем у бліжэйшыя дні.

Матэрыял для газет дасылайце да 15-16/XI на маё імя.

З прывітаннем.

Нам. начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР
начальнік Бюро перапісу насельніцтва **С. Шындлер**

1 лістапада 1936 г.

## ЗАГАД № 530

### па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 27 кастрычніка 1936 г.*

Супрацоўнік КНГУ БССР, інструктар-кантралёр т. Жукоўскі, быў паслан для дапамогі райінспектуры па падрыхтоўцы да Усесаюзнага перапісу насельніцтва ў Суражскі раён. Прабыўшы ў камандыроўцы звыш 10 дзён, ён нічога не зрабіў і нават не паведаміў мне аб тым, у якім становішчы знаходзіцца справа, па якой ён быў пасланы.

За безадказныя адносіны да важнай дзяржаўнай справы—падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва з а г а д в а ю: т. Жукоўскага аслабаніць ад работы ў КНГУ БССР з 1-га лістапада 1936 г.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР **Уладзімірскі.**

### Да ведама ўсіх раённых і гарадскіх інспектароў і начальнікаў акруговых кіраўніцтваў Наргасучота.

14 лістапада г. г. у адрас усіх раённых і гарадскіх інспектур, акруговых кіраўніцтваў наргасучота, райкомаў і гаркомаў КП(б)Б, райвыканкомаў, горсоветаў і акругкомаў КП(б)Б адпраўлена брашура: „Усесаюзны перапіс насельніцтва 1937 года“—матэрыял для дакладчыкаў.

Бюро перапісу насельніцтва КНГУ БССР.

## ЗАГАД № 1428

### па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

*ад 27-IX 1936 года.*

Пастановай СНК СССР ад 22 ліпеня 1936 года за № 1326 правядзенне перапісу насельніцтва ў дзіцячых дамах, лясных школах і ў школах глуханямых ускладзена на адміністрацыю паказаных устаноў. У сувязі з гэтым з а г а д в а ю:

1. Загадчыкам горрайАНА прадставіць раённаму інспектару народна-гаспадарчага ўчота не пазней 15 кастрычніка 1936 года вычарпальныя спісы наказанага тыпу ўстаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі раёна, незалежна ад таго падпарадкаваны яны непасрэдна райгорАНА ці НКАсветы.

2. Абавязаць усіх дырэктароў дзіцячых дамоў, лясных школ і школ глуханямых паведаміць інспектару народна-гаспадарчага ўчота прозвішча асобы, адказнай за правядзенне перапісу па даннай установе. Акрамя назначэння адказнай асобы за правядзенне перапісу, кіраўнік установы вызначае з складу персаналу патрэбную колькасць асоб для правядзення перапісу з разліку, прыкладна адну на 150 асоб.

3. Па г. г. Менску, Віцебску, Гомелю, Полацку, Лепелю, Слуцку і Мазыру спісы прадстаўляюцца гарадскому інспектару народна-гаспадарчага ўчота.

4. Абавязваю кіраўнікоў устаноў, вызначаных асоб для правядзення перапісу безагаворачна выслаць на інструктаж па запатрабаванню інспектара народна-гаспадарчага ўчота.

Нам. Наркома Асветы БССР Гершон

## ЗАГАД № 1457

### па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

*ад 7/X 1936 г.*

Згодна пастановы СНК СССР ад 28/IV-1936 г. і ад 20/IV 1936 г. для правядзення перапісу насельніцтва прыцягваюцца работнікі школ, вучні вышэйшых навучальных устаноў і старшых класаў сярэдніх школ, у сувязі з чым загадваю:

Усім загадчыкам райгорАНА дапамагчы райінспектару наргасучота ў падборы кадраў для перапісу насельніцтва з работнікаў школ, студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў і вучняў старшых класаў сярэдніх школ.

Забараніць пасля інструктажа вылучаных для правядзення перапісу насельніцтва асоб адрываць і заменьваць да скончэння даручанай ім работы па перапісу насельніцтва.

Народны Камісар Асветы БССР Дзякаў

## У Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

У адпаведнасці з дырэктывай Цэнтральнага ўрачэбна-санітарнага кіраўніцтва НКШЗносін паведамляю спіс лячэб-

ных устаноў Заходняй чыгункі і прозвішча начальнікаў устаноў, адказных за правядзенне перапісу:

| Назва ўстаноў | Месца знаходжання ўстаноў | Прозвішча начальнікаў устаноў |
|---|---|---|
| Чыгуначна-дарожн. бальніца | ст. Орша | Ліхачоў А. І. |
| " " " | ст. Менск | Рамановіч Б. М. |
| " " " | ст. Віцебск | Папова О. В. |
| " " " | ст. Полацк | Дзмітрыеў Д. Д. |
| Дзіцячыя яслі . . . . . | ст. Орша цэнтр. | Магірко М. І. |
| " " . . . . . . | ст. Віцебск | Барышоў М. Г. |
| " " . . . . . . | ст. Менск | Гольдштэйн М. А. |
| Начны санаторы . . . . . | ст. Віцебск | Уцешова А. Н. |
| " " . . . . . | ст. Менск | Смірноў А. В. |
| " " . . . . . | ст. Орша Зах. | Ліхачоў А. І. |

Начальнік Дорсанаддзела Заходняй чыгункі—Грыншпан
Начальнік Лечгрупы—Фрыдман

кастрычніка 1936 г. №-Л 57.

## Дырэктарам дамоў адпачынку, санаторыі „Сасноўка" і інваліднага дома

У выкананне пастановы СНК СССР ад 22/VII—36 г. і дырэктывы ВЦСПС аб перапісу адпачываючых у дамах адпачынку, санаторыях і дамах інвалідаў ЦСПСБ прапануе вам правесці наступныя мерапрыемствы:

1. Па ўказанню гарадскіх і раённых інспектароў наргасучота падрыхтавацца да вытварэння перапісу адпачываючых хворых, якія будуць знаходзіцца ў час вытварэння перапісу ў дамах адпачынку, санаторыі і інвалідным доме.

2. Да 15 кастрычніка паведаміць у мясцовае кіраўніцтва наргасучота, альбо інспектару, адрас сваёй установы і вылучыць адказную асобу за вытварэнне перапісу, паведаміўшы не пазней 15-га лістапада яе прозвішча ў мясцовы орган наргасучота.

Да гэтага-ж тэрміну (15/XI) вылучыць неабходную колькасць работнікаў з складу свайго персанала для правядзення перапісу, прыкладна 1 на 150 чал.

3. Абавязаць работніка, вылучанага адказным за правядзенне перапісу, устанавіць сувязь з мясцовым кіраўніцтвам наргасучота і атрымаць указанні аб парадку правядзення перапісу і прадстаўлення матэрыялаў.

4. Стала пражываючае на тэрыторыі ўстановы насельніцтва (адміністрацыя, персанал і іх сем'і) перапісваецца на агульных падставах з усімі грамадзянамі.

5. Улічваючы важнасць гэтага перапісу, ЦСПСБ ускладае адказнасць за яго правядзенне на дырэктароў дамоў адпачынку, санаторый і дома інвалідаў,

Сакратар ЦСПСБ—Гераўкер

14 кастрычніка 1936 г. № 013.

## Спіс прафілактычных установ ЦСПСБ

1. Дом адпачынку імя 11 ліпеня—Менскі раён, пляцформа Ждановічы
2. „ „ Клёнкі —Гомельскі раён
3. „ „ Заольша —Лёзнянскі раён, ст. Заольша
4. „ „ імя Леніна —Бабруйскі раён, г. Бабруйск
5. „ „ Магілеў —Магілеўскі раён, г. Магілеў
6. „ „ Наздроўшчына—Аршанскі раён, Наздроўшчына
7. „ „ „Блонь" —Барысаўскі раён,—Блонь
8. „ „ „Рудня" —Ветрынскі раён, ст. Фарынава
9. Санаторый „Сасноўка" —Віцебскі раён, ст. Сасноўка
10. Дом інвалідаў —Касцюковіцкі раён, ст. Бялынкавічы.

## Усім загадчыкам дамоў інвалідаў сістэмы Н. К. соц. забеспячэння БССР

### Копія Наргасучоту БССР.

Менскаму, Слуцкаму, Чэрвеньскім дамам (дарослых і дзіцячаму), Магілеўскаму, Рагачоўскаму, Свадкавіцкаму—Крычаўскага раёна, Межанскаму—Мехаўскага раёна, Красналуцкаму—Халопеніцкага раёна, Дуянаўскаму—Гомельскага раёна, Шэлягоўскаму і Селюцінскаму—Віцебскага раёна, Дымаўскаму—Шклоўскага раёна, Чэлюшчавіцкаму—Капаткевіцкага раёна, Хоцімскаму—Хоцімскага раёна.

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 22 ліпеня 1936 года № 1326—аб перапісу насельніцтва, прапануецца Вам не пазней 15/X—36 г. з'явіцца на інструктаж да інспектара наргасучота ў раёне (ці горадзе) і пад яго непасрэдным кіраўніцтвам правесці перапіс утрыманцаў, знаходзячыхся на забеспячэнні ў Вашых дамах.

Заўвага: Па Менску, Віцебску, Гомелю, Слуцку з'явіцца на інструктаж да гарадскога інспектара наргасучота.

Аб ходзе работы паведаміце Наркамсабез да 10/X—36 г

Нам. Наркома Ашак

28/IX 1936. № 1-6

## РАСПАРАДЖЭННЕ № 2716

### па сістэме кас промкаапера цыі БССР ад 7/X 1936 г.

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 22 ліпеня г. г. за № 1326 аб правядзенні Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 г., перапіс адпачываючых у дамах адпачынку ўскладаецца на адміністрацыю гэтых устаноў.

Выходзячы з гэтага прапаную ўсім старшыням промстрахкас і дырэктарам дамоў адпачынку вызначыць адказных асоб па дамах адпачынку па правядзенню перапісу, прадставіўшы мясцовым інспектарам наргасучота спісы прадпрадкаваных промстрахкасам дамоў адпачынку.

Па ўсіх пытаннях перапісу звязацца з райінспектарамі наргасучота.

Старшыня прэзідыума Белпромсаюзкас Левін

## *УСІМ ПРАУЛЕННЯМ ГОРЖЫЛСАЮЗАУ, ЖАКТА,У УСІМ ЧЛЕНАМ ЖАКТАЎ*

***ТАВАРЫШЫ!***

6 студзеня 1937 года па ўсяму Совецкаму саюзу будзе праводзіцца перапіс насельніцтва.

Гэты перапіс найбольш яскрава адлюструе ўсе важнейшыя дасягненні нашага вялікага Совецкага саюза за гады першай і другой пяцігодак—за апошнія дзесяць год, якія аддзяляюць нас ад перапісу 1926 года. Усесаюзны перапіс насельніцтва 1937 г. дакладнымі лічбамі падагуліць нашы перамогі сусветна-гістарычнага значэння, перамогі, якія атрыманы працоўнымі ўсяго Совецкага саюза пад кіраўніцтвам Усесаюзнай комуністычнай партыі і правадыра сусветнага пролетарыята вялікага СТАЛІНА.

„Перапіс насельніцтва 1937 года з'явіцца першым перапісам, які праводзіцца ў дзяржаве, дзе соцыялістычныя адносіны паміж людзьмі сталі непадзельна пануючымі ў эканоміцы, дзе соцыялістычныя нормы становяцца ў навуцы, у культуры, у быце, у свядомасці дзесяткаў мільёнаў людзей. Неабходна зрабіць усё для таго, каб перапіс быў праведзен узорна, каб яго бясспрэчна бліскучыя паказальнікі паслужылі асновай для большэвіцкага планавання новых перамог, новых заваёў соцыялізма" („Правда", № 119).

Абавязак кожнага грамадзяніна нашай радзімы прыняць актыўны ўдзел у перапісу і забяспечыць высокаякаснае і ўзорнае яго правядзенне.

У адпаведнасці з гэтым неабходна па дагаворанасці з інспектурамі наргасучота прыступіць да арганізацыі брыгад садзейнічання перапісу пры горжылсаюзах і жактах. Колькасць членаў брыгад павінна быць ад 5 да 15 чал., у залежнасці ад размераў жактаў. У склад гэтых брыгад трэба вылучыць найбольш працаздольных, палітычна праверaных людзей з ліку актывістаў жактаў і лепшых работнікаў горжылсаюзаў. У задачы брыгад садзейнічання ўваходзіць:

У падрыхтоўчы перыяд:

1. Дапамагчы інспектарам наргасучота праверыць паўнату дваравых спісаў, складзеных інспектурай наргасучота.

2. Правядзенне масава-растлумачальнай работы сярод жыхароў жактаў, у мэтах садзейнічання інструктарам наргасучота ў падборы кадраў з ліку актыва жактаў, палітычна правераных і тэхнічна граматных.

3. Правядзенне масава-растлумачальнай работы сярод жыхароў жактаў аб значэнні перапісу насельніцтва і абавязках грамадзян у перапісу.

У часе правядзення самога перапісу брыгада садзейнічання арганізуе кантроль за тым, каб не было ніводнага пропуску пры перапісу шчотчыкамі насельніцтва, пражываючага ў памяшканнях жактаў, і разам з інструктарам-кантралёрам прымае ўдзел у кантрольных абходах.

Праўленне Белжылсаюза і Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР упэўнены, што ўсе члены жактаў, арганізуючы соцпаборніцтва паміж жактамі і брыгадамі, пакажуць узоры ў арганізацыі і правядзенні перапісу насельніцтва і з гонарам выканаюць задачы, ускладзеныя на нас партыяй, урадам і ВЯЛІКІМ СТАЛІНЫМ.

**Старшыня праўлення Белжылсаюза—Разуеў**

**Нам. нач. Кіраўніцтва Наргасучота БССР—Шындлер**

**5 лістапада 1936 г.**
**г. Менск**

## ПАСТАНОВА

### пленума Аршанскага горсовета з актывам г. Оршы

*ад 2/XI 1936 года.*

Заслухаўшы даклад аб прадстаячым Усесаюзным перапісу насельніцтва ў студзені месяцы 1937 г. пленум Горсовета сумесна з актывам пастанаўляе:

1. Улічваючы велізарную гаспадарча-палітычную важнасць перапісу насельніцтва, які без удзелу і дапамогі актыва не можа прайсці паспяхова, пленум Горсовета даручае прэзідыуму забяспечыць лепшую падрыхтоўку правядзення самога перапісу, вылучыць з актыва Горсовета,

секцый, дэп. груп лепшых таварышоў для правядзення гэтага надзвычайна важнага перапісу.

2. Прымаючы пад увагу, што паспяховае правядзенне перапісу насельніцтва і ахоп усяго насельніцтва залежыць ад зразумення насельніцтвам палітычнай важнасці гэтай велізарнай справы, члены Горсовета і актыў (кварткомы, члены секцый і дэп. групы) бяруць абавязацельства праводзіць штодзённа масава-растлумачальную работу сярод насельніцтва аб задачах прадстаячага перапісу і парадку яго правядзення.

Старшыня прэзідыума **Сцепанаў**
Сакратар **Літвінава**

## ПАСТАНОВА

### агульнага схода настаўнікаў Аршанскага раёна, адбыўшагася

*1 лістапада 1936 года*

Заслухаўшы інфармацыю аб прадстаячым Усесаюзным перапісу насельніцтва ў студзені месяцы 1937 года, агульны сход настаўнікаў Аршанскага раёна ў колькасці 485 чалавек пастанаўляе:

1. Улічваючы велізарную палітычную і народна-гаспадарчую важнасць Усесаюзнага перапісу насельніцтва, настаўнікі Аршаншчыны аб'яўляюць сябе добраахвотнікамі для ўдзелу ў правядзенні перапісу насельніцтва.
2. Прымаючы пад увагу, што паспяховае правядзенне перапісу насельніцтва залежыць ад уразумення насельніцтвам палітычнай важнасці гэтай справы, агульны сход настаўнікаў бярэ абавязацельства праводзіць штодзённа шырокую масава-растлумачальную работу сярод насельніцтва аб задачах прадстаячага перапісу і парадку яго правядзення.
3. Агульны сход настаўнікаў Аршаншчыны, узяўшы на сябе вышэйадзначаныя абавязацельствы, выклікае на соцспаборніцтва настаўнікаў Магілеўскага раёна.

Старшыня схода **Шэйніна.**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### нарады кантралёраў-інструктароў Лагойскага раёна, адбыўшайся 9/XI—36 г.

Мы, кантралёры-інструктары, сабраўшыся на нараду па пытанню Усесаюзнага перапісу насельніцтва, прапрацаваўшы інструкцыю і фармуляры па перапісу насельніцтва, адзна-

чаем вялікае палітычнае і гаспадарчае значэнне прадстаячага перапісу і ў звязку з гэтым бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Аб'яўляем сябе добравольцамі па перапісу насельніцтва.

2. Перапіс насельніцтва правесці на выдатна і ў тэрмін, устаноўлены ўрадам.

3. Своечасова з'явіцца ў вызначаны тэрмін на інструктаж, які будзе праходзіць у снежні месяцы па сельсоветах, а таксама забяспечыць 100% і своечасовую яўку ўсіх шчотчыкаў на інструктаж.

4. Штодзённа ўжо зараз вывучаць інструкцыю і перапісны ліст з тым, каб да інструктажу прыйсці падрыхтанымі.

По даручэнню нарады падпісалі: Саўчык, Занемонец, Стрыга.

## ПРАТАКОЛ

## нарады настаўнікаў Друцкай НСШ Талочынскага раёна

*ад 29-га кастрычніка 1936 г.*

Прысутнічала—8 чалавек.

### ПАРАДАК ДНЮ:

Падбор кадраў для Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 года.

Слухалі: Інфармацыю ўчастковага інспектара наргасучота т. КАЎРЫГА Міх. па пытанню Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва.

Пастанавілі: Надаючы выключна важнае значэнне Ўсесаюзнаму перапісу насельніцтва, мы, настаўнікі Друцкай НСШ, абавязуемся добраахвотна прыняць актыўны ўдзел у перапісу насельніцтва.

По даручэнню нарады:

Участковы інспектар НГУ Каўрыга
Старшыня сельсовета Тодрын
Настаўнікі: (подпісы).

## Усім загадчыкам пачатковых школ і дырэктарам НСШ.

Свяцілавіцкая інспектура наргасучота і РайАНА паведамляюць Вам, што СНК БССР прапанаваў НКАсветы не выклікаць на заліковыя сесіі настаўнікаў-завочнікаў на час

перапісу насельніцтва, маючы на ўвазе поўнае скарыстанне ўсіх настаўнікаў па перапісу насельніцтва.

Неадкладна пастаўце аб гэтым у вядомасць усіх настаўнікаў Вашай школы.

Спадзяемся, што Ваш большэвіцкі ўдзел у перапісу насельніцтва дапаможа краіне ў далейшым планаванні новых перамог, новых заваёў соцыялізма.

Удзельнічаць у перапісу насельніцтва—справа гонару кожнага настаўніка.

Райупаўнаважаны КНГУ БССР па перапісу насельніцтва Ляшкевіч

Загадчык РайАНА Вдовенка.

# Работа раённых і ўчастковых інспектур

## Усім раённым інспектарам наргасучота

Аддзел учота пацы КНГУ БССР накіроўвае пры гэтым зводку аб паступленні матэрыялаў па бягучаму ўчоту працы за верасень месяц і адзначае:

1. Што, не гледзячы на скарачэнне тэрмінаў складання справаздачнасці з 15 да 10 чысла пасля справаздачнага месяца, шэраг раёнаў не дабіліся ад прадпрыемстваў своечасовага паступлення матэрыяла.

Так, нараўне з раёнамі своечасова і поўнасцю прадставіўшымі матэрыял на 15/X: Асвейскі, Грэскі, Даманавіцкі, Ельскі, Прапойскі, Старадарожскі, Халопеніцкі і Бялыніцкі—маюцца раёны, якія нават на 20/X не прыслалі значнай часткі матэрыяла: Барысаўскі, Брагінскі, Бягомльскі, Віцебскі, Гомельскі, Дрысенскі, Мехаўскі, Смалявіцкі, Старобінскі.

Значна падцягнууся ў збіранні матэрыяла, у параўнанні з другімі месяцамі, Менск—горад. Зусім не прадставілі матэрыялы па ўчоту працы нават на 20/X: Гарадокскі, Парыцкі і Чэрвеньскі раёны. Неабходна адзначыць, што ў верасні, у параўнанні з мінулым месяцам, па многіх раёнах паступленне матэрыялаў пагоршылася. У выніку гэтага па БССР маем наступнае:

**Паступленне матэрыяла за жнівень і верасень**

| Па прамысловасці | | | | Па будаўніцтву | | | | Па соўгасах і МТС | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жнівень | | Верасень | | Жнівень | | Верасень | | Жнівень | | Верасень | |
| 15 | 20 | 15 | 20 | 15 | 20 | 15 | 20 | 15 | 20 | 15 | 20 |
| 38 | 73 | 21 | 71 | 35 | 70 | 20 | 66 | 37 | 71 | 37 | 67 |

Асабліва дрэнна паступае матэрыял па будаўніцтву (на 15/X—20 проц.). Зусім не прыслалі матэрыяла па будаўніцтву: Горацкі, Журавіцкі, Заслаўскі, Мехаўскі, Свяцілавіцкі, Старобінскі раёны.

Аддзел учота працы патрабуе своечасовай дасылкі матэрыяла і папярэджвае, што пры атрыманні матэрыяла пасля 20 чысла будзе значна зніжацца ацэнка работы інспектуры.

Начальнік аддзела ўчота працы КНГУ БССР Антонава.

23 кастрычніка 1936 г.

## Паступленне матэрыяла па бягучаму ўчоту працы за верасень месяц 1936 года ў проц.

| Назва раёнаў | Прамысловасць | | Будаўніцтва | | Соўгасы і МТС. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Паступіла | | Паступіла | | Паступіла | |
| | на 15/X | на 20/X | на 15/X | на 20/X | на 15/X | на 20/X |
| 1. Асвейскі | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 2. Асіпавіцкі | 33 | 83 | 16 | 75 | 75 | 66 |
| 3. Бабруйскі | 23 | 76 | 25 | 75 | 37 | 81 |
| 4. Багушэўскі | 100 | 100 | 50 | 50 | 50 | 50 |
| 5. Барысаўскі | 4 | 8 | 18 | 18 | 10 | 10 |
| 6. Бешанковіцкі | 100 | — | 66 | 66 | 75 | 100 |
| 7. Брагінскі | — | — | 50 | 50 | 100 | 100 |
| 8. Буда-Кашал. | 100 | 100 | — | — | 33 | 100 |
| 9. Быхаўскі | 50 | 83 | 0 | 60 | 50 | 100 |
| 10. Бягомльскі | 0 | 0 | 0 | 33 | 0 | 66 |
| 11. Бялыніцкі | — | — | — | — | 100 | 100 |
| 12. Бярэзінскі | 50 | 50 | 0 | 50 | 50 | 100 |
| 13. Веткаўскі | 0 | 100 | — | — | 0 | 100 |
| 14. Ветрынскі | 0 | 100 | 0 | 100 | 42 | 57 |
| 15. Віцебскі | 18 | 56 | 10 | 50 | 66 | 72 |
| 16. Гарадоцкі | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| 17. Глускі | 0 | 0 | 0 | 50 | 22 | 44 |
| 18. Гомельскі | 4 | 54 | 2 | 34 | 0 | 50 |
| 19. Горацкі | 0 | 80 | 0 | 0 | 0 | 80 |
| 20. Грэскі | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 21. Даманавіцкі | 100 | 100 | — | — | 100 | 100 |
| 22. Дзержынскі | 50 | 100 | 50 | 100 | 10 | 40 |
| 23. Добрушскі | 50 | 100 | 25 | 50 | 25 | 75 |
| 24. Дрыбінскі | 0 | 66 | — | — | 33 | 50 |
| 25. Дрысенскі | 0 | 66 | 0 | 75 | 0 | 40 |
| 26. Дубровенскі | 0 | 0 | 0 | 20 | 12 | 12 |
| 27. Ельскі | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 28. Жлобінскі | 64 | 90 | 83 | 83 | 18 | 45 |
| 29. Журавіцкі | 0 | 50 | 0 | 0 | 0 | 75 |
| 30. Жыткавіцкі | 0 | 66 | 33 | 100 | 100 | 100 |
| 31. Заслаўскі | 50 | 50 | 0 | 0 | 16 | 66 |
| 32. Камарынскі | 100 | 100 | 0 | 100 | 0 | 66 |
| 33. Капаткевіцкі | 0 | 100 | — | — | 0 | 100 |
| 34. Кармянскі | 50 | 50 | 0 | 66 | 33 | 100 |
| 35. Касцюковіцкі | 66 | 100 | 100 | 100 | 66 | 88 |
| 36. Кіраўскі | 0 | 66 | — | — | 0 | 100 |
| 37. Клімавіцкі | 70 | 80 | 100 | 100 | 37 | 75 |
| 38. Клічаўскі | 20 | 60 | 25 | 50 | 0 | 42 |
| 39. Копыльскі | 66 | 100 | — | — | 50 | 75 |
| 40. Круглянскі | 100 | 100 | 100 | 100 | 33 | 100 |
| 41. Крупскі | 100 | 100 | — | — | 66 | 66 |
| 42. Крычаўскі | 0 | 45 | 0 | 71 | 12 | 50 |
| 43. Лагойскі | 0 | 100 | — | — | 0 | 75 |
| 44. Лельчыцкі | — | — | 50 | 100 | 66 | 66 |
| 45. Лепельскі | 0 | 50 | — | 33 | 0 | 33 |
| 46. Лёзнянскі | 0 | 80 | 50 | 75 | 42 | 100 |

Паступленне матэрыяла па бягучаму ўчоту працы за верасень месяц 1936 года ў проц. (працяг)

| Назва раёнаў | Прамысловасць | | Будаўніцтва | | Соўгасы і МТС. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Паступіла | | Паступіла | | Паступіла | |
| | на 15/X | на 20/X | на 15/X | на 20/X | на 15/X | на 20/X |
| 47. Лоеўскі | 100 | 100 | 50 | 50 | 50 | 50 |
| 48. Любаньскі | 100 | 100 | 66 | 100 | 50 | 75 |
| 49. Магілеўскі | 70 | 88 | 15 | 73 | 68 | 73 |
| 50. Мазырскі | 25 | 75 | 12 | 50 | 50 | 80 |
| 51. Менск (горад) | 30 | 92 | 4 | 100 | — | — |
| 52. Менскі (раён) | 28 | 100 | 0 | 100 | 40 | 73 |
| 53. Мехаўскі | 0 | 33 | 0 | 0 | 0 | 50 |
| 54. Мсціслаўскі | 71 | 100 | 33 | 100 | 0 | 33 |
| 55. Нараўлянскі | 0 | 100 | 25 | 25 | 100 | 100 |
| 56. Аршанскі | 15 | 15 | 7 | 42 | 41 | 76 |
| 57. Парыцкі | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| 58. Петрыкаўскі | 75 | 100 | 25 | 75 | 25 | 100 |
| 59. Плешчаніцкі | 50 | 75 | — | — | 60 | 80 |
| 60. Полацкі | 16 | 83 | 0 | 83 | 14 | 28 |
| 61 Прапойскі | — | — | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 62. Пухавіцкі | 33 | 100 | 50 | 50 | 0 | 100 |
| 63· Рагачоўскі | 0 | 83 | 0 | 100 | 0 | 100 |
| 64. Расонскі | 33 | 66 | 50 | 50 | 50 | 100 |
| 65. Рэчыцкі | 12 | 94 | 7 | 100 | 11 | 77 |
| 66. Свяцілавіцкі | 50 | 50 | 0 | 0 | 75 | 75 |
| 67. Сенненскі | 25 | 100 | 0 | 100 | 50 | 50 |
| 68. Сіроцінскі | 33 | 100 | 0 | 50 | 100 | 100 |
| 69. Слуцкі | 21 | 71 | 14 | 42 | 11 | 44 |
| 70. Смалявіцкі | 0 | 0 | 0 | — | 10 | 10 |
| 71. Смілавіцкі | 100 | 100 | 16 | 33 | 33 | 83 |
| 72. Старадарожскі | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 73. Старобінскі | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 50 |
| 74. Суражскі | 33 | 44 | 28 | 28 | 75 | 75 |
| 75. Талачынскі | 28 | 85 | 0 | 66 | 77 | 88 |
| 76. Тураўскі | 0 | 100 | 0 | 0 | 50 | 100 |
| 77. Уваравіцкі | 50 | 75 | 50 | 50 | 74 | 87 |
| 78. Уздзенскі | 40 | 80 | 50 | 50 | 100 | 100 |
| 79. Ушацкі | 0 | 75 | 0 | 25 | 0 | 50 |
| 80. Халопеніцкі | 100 | 100 | — | — | 100 | 100 |
| 81. Хоцімскі | 50 | 100 | 33 | 66 | 40 | 40 |
| 82. Хойніцкі | 50 | 83 | — | — | 28 | 100 |
| 83. Церахоўскі | 25 | 25 | — | — | 20 | 60 |
| 84. Чаускі | 100 | 100 | 100 | 100 | 42 | 57 |
| 85. Чачэрскі | 50 | 50 | — | — | 50 | 50 |
| 86. Чашніцкі | 66 | 100 | 100 | 100 | 40 | 80 |
| 87. Чырвонапольскі | 50 | 50 | — | — | 33 | 66 |
| 88. Чырвонаслабодскі | 0 | 50 | — | — | 0 | 25 |
| 89. Чэрвеньскі | 0 | 0 | — | — | 0 | 0 |
| 90. Чэрыкаўскі | 66 | 66 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 91. Шклоўскі | 66 | 88 | 100 | 100 | 25 | 50 |
| Усяго па БССР | 21 | 71 | 20 | 66 | 37 | 67 |

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Уздзенскага райвыканкома

*ад 27 верасня 1936 г.*

аб непрадстаўленні справаздачнасці за III квартал і верасень месяц цагельным заводам і калгасамі: „Чырвонамайск“, Прысынкаўскага сельсовета, і „Комунар“, Лашанскага сельсовета (даклад. інспектара наргасучота тав. Грышук).

За непрадстаўленне ў райінспектуру наргасучота месячных справаздач па ўчоту працы і зарплаты і квартальнай справаздачы па звароту сталовай, дырэктара цагельнага завода т. Бендзе аштрафаваць у суме 25 руб.

За спазненні ў прадстаўленні квартальнай адчотнасці па фермах (замест 3/X прадстаўлена к 20/X 1936 г. і нядобраякасна) рахункаводаў калгасаў: „Чырвонамайск“, Прысынкаўскага сельсовета, і „Комунар“, Лашанскага сельсовета, аштрафаваць у суме 10 руб. кожнага.

Гэту пастанову перадаць сельсоветам для спагнання штрафа.

Прасіць рэдактара газеты „Калгаснік Уздзеншчыны“ надрукаваць гэту пастанову ў раённай газеце.

Нам. старшыні РВК—**Некраш.**
Сакратар—**Алісевіч.**

**Якасць работы ўчастковых інспектароў Касцюковіцкага раёна за кастрычнік месяц 1936 г.**

| Прозвішча | Складанне картак № 2 па вымярэнню ўраджаю | Вымярэнне ўраджаю бульбы | Квартальны адчот па фермах | Фонд зарплаты за III кв. | Карткі па працы | Загс | Вядзенне дзенніка | Валавая прадукцыя позніх культур | Кантрольна-спісачны ўчот культустаноў | Сярэдні бал | Катэгорыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Федасенка . . | 5 | — | 3 | 5 | 3 | 5 | 3 | 5 | 5 | 4,2 | 2 |
| Набелохаў . . | 2 | 3 | 2 | 5 | 5 | 3 | 2 | 0 | 0 | 2,4 | 4 |
| Братаноў . . . | 3 | 3 | 0 | 5 | 0 | 5 | 2 | 5 | 0 | 2,5 | 3 |
| Сімакоў . . . | 5 | 5 | 3 | 4 | — | 5 | 5 | 5 | 5 | 4,4 | 2 |
| Дземідаў . . . | 5 | 5 | 2 | 5 | 3 | 5 | 3 | 5 | 4 | 4,1 | 2 |

Райінспектар наргасучота **Лугаўцоў.**

# ПАСТАНОВА

## вытворчай нарады работнікаў Менскай горінспектуры наргасучота

*ад 7-га кастрычніка 1936 г.*

Абмеркаваўшы соцдагавор, заключаны Кіраўніцтвам Наргасучота БССР з Кіраўніцтвамі Наргасучота Ленінградскай, Маскоўскай і Калінінскай абласцей, мы, работнікі Менскай горінспектуры наргасучота, бярэм на сябе абавязак своечасова і добраякасна выконваць усе пункты соцдагавора, якія датычацца гарадскіх і ўчастковых інспектур наргасучота.

Абавязуемся: добраякасна правесці перапіс насельніцтва 1937 г., штомесячна склікаць вытворчыя нарады для абгаварэння вынікаў работы інспектуры за месяц і праверкі выканання індывідуальных соцдагавароў, якія заключаюцца паміж работнікамі інспектуры, штомесячна рэгулярна выпускаць насценгазету „За соцыялістычны ўчот“.

Прымаем вызаў Пухавіцкай райінспектуры і выклікаем на соцспаборніцтва Гомельскую інспектуру наргасучота.

Па даручэнню вытворчай нарады.

Гор. інспектар наргасучота Якуцік.

## СОЦДАГАВОР

Мы, работнікі Журавіцкай інспектуры народна-гаспадарчага ўчота, абгаварыўшы на агульным сходзе інспектуры 24/Х—36 г. выклік на соцспаборніцтва Кармянскай і Быхаўскай інспектуры, пастанавілі—выклік на соцспаборніцтва прыняць па наступных абавязках:

1. Ліквідаваць адставанне Журавіцкай інспектуры па ўсіх работах, правадзімых інспектурай згодна заданняў Кіраўніцтва НГУ БССР.
2. Неадкладна ліквідаваць адставанне інспектуры па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва.
3. Падабраць выключна добраякасныя кадры для правядзення перапісу насельніцтва з тым, каб не мець ніякіх перашкод у праходжанні самога перапісу.
4. Неадкладна арганізаваць пры сельсоветах групы садзейнічання перапісу згодна ўказанняў КНГУ і Журавіцкага РВК.
5. Шырока разгарнуць масава-растлумачальную работу па падрыхтоўцы да перапісу сярод насельніцтва шляхам пастаноўкі інфармацыйных паведамленняў на агульных сходах, пасаджаннях сельскіх советаў, праўлённяў калгасаў, а таксама праз раённую і насценныя газеты.

6. Своечасова і належным чынам правесці падрыхтоўчую работу па завядзенню пагаспадарчых кніг у сельскіх советах на 1937 год.

7. Арганізаваць работы па ліквідацыі адставання запісаў і наладжванню ўчота ў адстаючых калгасах.

8. Усю работу бягучага парадку, даручаную Кіраўніцтвам НГУ БССР, выканаць добраякасна і ў тэрмін, а распрацоўку матэрыялаў выконваць датэрмінова.

9. Выклікаць на соцспаборніцтва Суражскую інспектуру НГУ.

10. Прасіць быць арбітрам рэдакцыі інфармацыйнага бюлетэня КНГУ БССР.

Райінспектар НГУ Науменак.

Участковыя інспектары: Скрыганаў, Селіванаў, Андрэйчыкаў.

Статыстык Матвейкаў.

**Вынікі праверкі становішча ўчота ў калгасах БССР на 1/XI—36 года**

| Назва раёнаў | Усяго калгасаў у раёне | Абследвана калгасаў | Выяўлена пры абследванні: На падвойнай сістэме | На простай сістэме | Без рахункаводаў | Не кваліфікаваных рахункаводаў | Адсутнасць інструктажа | Незабяспечаны кнігамі па ўчоту | Адсталасць учота на 1 м-ц і больш |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Асвейскі . . . . | 83 | 83 | 19 | 64 | 1 | 49 | 19 | 1 | 5 |
| 2. Асіпавіцкі . . . | 99 | 62 | 32 | 30 | 1 | 27 | 24 | 6 | 4 |
| 3 Бабруйскі . . . . | 138 | 82 | 56 | 26 | — | 13 | 23 | 6 | 3 |
| 4. Багушэўскі . . | 117 | 63 | 37 | ·26 | — | 23 | 24 | 9 | 20 |
| 5. Барысаўскі . . . | 118 | 50 | 40 | 10 | — | 11 | 20 | 5 | 7 |
| 6. Бешанковіцкі . . | 202 | 202 | 34 | 168 | — | 62 | 138 | 28 | 2 |
| 7. Брагінскі . . . . | 89 | 87 | 76 | 11 | — | 18 | 46 | 12 | 36 |
| 8. Буда-Кашалеўскі | 76 | 17 | 14 | 3 | — | 5 | 6 | 3 | 5 |
| 9. Быхаўскі . . . . | 140 | 49 | 21 | 28 | — | 29 | 31 | 6 | 15 |
| 10. Бягомльскі . . . | 129 | 49 | 14 | 35 | — | 24 | 1 | — | — |
| 11. Бялыніцкі . . . . | 112 | 93 | 36 | 57 | 1 | 38 | 53 | 13 | 9 |
| 12. Бярэзінскі . . . . | 146 | 80 | 53 | 27 | 1 | 22 | 29 | 2 | 10 |
| 13. Веткаўскі . . . . | 42 | 41 | 37 | 4 | — | 10 | 8 | 5 | 11 |
| 14. Ветрынскі . . . | 75 | 47 | 19 | 28 | — | 10 | 34 | 2 | 8 |
| 15. Віцебскі . . . . | 105 | 23 | 16 | 7 | — | 9 | 5 | 3 | 14 |
| 16. Гарадоцкі . . . . | 105 | 82 | 36 | 46 | — | 18 | 42 | 4 | 7 |
| 17. Глускі . . . . . | 114 | 91 | 29 | 62 | 2 | 24 | 60 | 7 | 11 |
| 18. Гомельскі . . . . | 56 | 44 | 43 | 1 | 1 | 6 | 9 | 2 | 13 |
| 19. Горацкі . . . . . | 156 | 82 | 32 | 50 | 4 | 32 | 41 | 6 | 6 |
| 20. Грэскі . . . . . | ·70 | 56 | 49 | 7 | — | 5 | 30 | 2 | 16 |
| 21. Даманавіцкі . . . | 95 | 72 | 58 | 14 | — | 11 | 38 | 7 | 16 |
| 22. Дзержынскі . . . | 126 | 28 | 24 | 4 | — | 5 | 17 | 11 | 6 |
| 23. Добрушскі . . | 31 | 20 | 15 | 5 | — | 5 | 1 | 6 | — |
| 24. Дрыбінскі . . . . | 146 | 4 | 2 | 2 | — | 3 | 3 | 1 | — |
| 25. Дрысенскі . . . | 125 | 101 | 81 | 20 | — | 19 | 9 | 5 | 31 |
| 26. Дубровенскі . . | 158 | 107 | 50 | 57 | — | 37 | 76 | 12 | 4 |
| 27. Ельскі . . . . . | 65 | 35 | 19 | 16 | 1 | 8 | 15 | — | 2 |
| 28. Жлобінскі . . . | 122 | 48 | 33 | 15 | 2 | 9 | 21 | 6 | 16 |
| 29. Журавіцкі . . . | 69 | 42 | 28 | 14 | — | 7 | 9 | 3 | 4 |
| 30. Жыткавіцкі . . . | 45 | 43 | 33 | 10 | — | 9 | 17 | 3 | 6 |
| 31. Заслаўскі . . . . | 71 | 42 | 21 | 21 | — | 13 | 28 | 5 | 9 |
| 32. Камарынскі . . . | 36 | 35 | 22 | 13 | — | 19 | 17 | 7 | 10 |
| 33. Капаткевіцкі . . | 59 | 31 | 15 | 16 | — | 11 | 20 | 1 | 5 |
| 34. Кармянскі . . . . | 110 | 104 | 32 | 72 | — | 56 | 64 | 6 | 4 |
| 35. Касцюковіцкі . . | 155 | 155 | 56 | 99 | 1 | 57 | 104 | 8 | 16 |
| 36. Кіраўскі . . . . | 93 | 68 | 38 | 30 | 1 | 21 | 51 | 11 | 19 |
| 37. Клімавіцкі . . . | 164 | 91 | 18 | 73 | 1 | 26 | 34 | 8 | 5 |
| 38. Клічаўскі . . . . | 98 | 71 | 44 | 27 | 2 | 14 | 18 | 1 | 15 |
| 39. Копыльскі . . . | 108 | 39 | 31 | 8 | — | 4 | 27 | 17 | 6 |
| 40. Круглянскі . . . | 134 | 131 | 68 | 63 | 1 | 8 | 73 | 8 | 6 |
| 41. Крупскі . . . . | 113 | 43 | 9 | 34 | — | 10 | 41 | — | 1 |
| 42. Крычаўскі . . . | 71 | 71 | 44 | 27 | 2 | 14 | 18 | 1 | 15 |
| 43. Лагойскі . . . . | 98 | 56 | 19 | 37 | — | 24 | 43 | 6 | 4 |
| 44. Лельчыцкі . . . | 50 | 49 | 27 | 22 | — | 4 | 24 | 7 | 3 |
| 45. Лепельскі . . . . | 129 | 51 | 15 | 36 | — | 15 | 35 | 2 | 10 |
| 46. Лёзненскі . . . . | 190 | 84 | 26 | 58 | 3 | 33 | 54 | 3 | 24 |

| Назва раёнаў | Усяго калгасаў у раёне | Абследавана калгасаў | Выяўлена пры абследванні: | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | На падвойнай сістэме | На простай сістэме | Без рахункаводаў | Не кваліфікаваных рахункаводаў | Адсутнасць інструктажа | Незабяспечаны кнігамі для ўчота | Адсталасць учота на 1 м-ц і больш |
| 47. Лоеўскі . . . . . | 55 | 55 | 49 | 6 | — | 14 | 29 | 11 | 13 |
| 48. Любаньскі . . . | 53 | 53 | 47 | 6 | — | 9 | 30 | 10 | 18 |
| 49. Магілеўскі . . . | 194 | 89 | 66 | 23 | 1 | 23 | 51 | 3 | 7 |
| 50. Мазырскі . . . . | 103 | 103 | 86 | 17 | 2 | 35 | 92 | 1 | 22 |
| 51. Менскі . . . . . | 107 | 59 | 59 | — | — | 5 | 11 | 9 | 11 |
| 52. Мехаўскі . . . . | 101 | 21 | 9 | 12 | — | 5 | 1 | — | 4 |
| 53. Мсціслаўскі . . . | 156 | 123 | 64 | 59 | 2 | 53 | 24 | 11 | 12 |
| 54. Нараўлянскі . . | 81 | 78 | 53 | 25 | 2 | 21 | 44 | 3 | 24 |
| 55. Аршанскі . . . . | 201 | 175 | 119 | 56 | 3 | 41 | 72 | 18 | 49 |
| 56. Парыцкі . . . . | 104 | 69 | 48 | 21 | — | 13 | 52 | 15 | 19 |
| 57. Петрыкаўскі . . | 78 | 60 | 56 | 4 | — | 9 | 53 | 16 | 9 |
| 58. Плешчаніцкі . . | 99 | 60 | 22 | 38 | — | 38 | 39 | 5 | 14 |
| 59. Полацкі . . . . | 145 | 75 | 52 | 23 | — | 11 | 36 | 7 | 8 |
| 60. Прапойскі . . . | 73 | 9 | 3 | 6 | — | 3 | 8 | 1 | 2 |
| 61. Пухавіцкі . . . . | 94 | 76 | 56 | 20 | 2 | 26 | 2 | — | 4 |
| 62. Рагачоўскі . . . | 108 | 104 | 44 | 60 | 1 | 38 | 71 | 27 | 25 |
| 63. Расонскі . . . . | 128 | 75 | 18 | 57 | — | 26 | 62 | 8 | 19 |
| 64. Рэчыцкі . . . . . | 108 | 80 | 58 | 22 | — | 19 | 53 | 2 | 14 |
| 65. Свяцілавіцкі . . | 45 | 31 | 9 | 22 | — | 13 | 30 | 4 | 5 |
| 66. Сенненскі . . . . | 165 | 104 | 17 | 87 | 2 | 29 | 41 | 6 | 25 |
| 67. Сіроцінскі . . . | 131 | 119 | 31 | 88 | 1 | 27 | 66 | 12 | 24 |
| 68. Слуцкі . . . . . | 92 | 23 | 21 | 2 | — | 3 | 11 | 4 | 8 |
| 69. Смалявіцкі . . . | 99 | 80 | 23 | 57 | 4 | 15 | 47 | 8 | 21 |
| 70. Смілавіцкі . . . | 87 | 86 | 59 | 27 | — | 33 | 57 | 34 | 21 |
| 71. Старадарожскі . | 79 | 73 | 72 | 1 | 1 | 11 | 11 | 6 | 27 |
| 72. Старобінскі . . . | 79 | 73 | 57 | 16 | 1 | 15 | 43 | 13 | 25 |
| 73. Суражскі . . . . | 192 | 105 | 21 | 84 | — | 33 | 82 | 14 | 7 |
| 74. Талочынскі . . . | 201 | 14 | 7 | 7 | — | 4 | 5 | — | 2 |
| 75. Тураўскі . . . . | 36 | 36 | 26 | 10 | — | 7 | 4 | — | 17 |
| 76. Уваравіцкі . . . | 50 | | не праведзена абследванне | | | | | | |
| 77. Уздзенскі . . . | 61 | 39 | 39 | — | — | — | — | 1 | 15 |
| 78. Ушацкі . . . . . | 164 | 162 | 82 | 80 | — | 43 | 74 | 10 | 38 |
| 79. Халопеніцкі . . . | 126 | 68 | 35 | 33 | 1 | 20 | 49 | 3 | 4 |
| 80. Хоцімскі . . . . | 88 | 86 | 41 | 45 | — | 46 | 22 | 10 | 19 |
| 81. Хойніцкі . . . . | 84 | 56 | 56 | — | — | 8 | 15 | 3 | 9 |
| 82. Церахоўскі . . . | 78 | 74 | 60 | 14 | — | 14 | 14 | 10 | 17 |
| 83. Чаускі . . . . . | 149 | 84 | 31 | 53 | — | 23 | 50 | 12 | 5 |
| 84. Чачэрскі . . . . | 65 | 55 | 26 | 29 | — | 21 | 47 | 12 | 12 |
| 85. Чашніцкі . . . . | 141 | 111 | 50 | 61 | 1 | 33 | 17 | 1 | 20 |
| 86. Чырвонапольскі . | 109 | 100 | 55 | 45 | — | 47 | 46 | 19 | 7 |
| 87. Чырвонаслабодскі | 51 | 39 | 38 | 1 | — | 4 | 1 | 7 | 22 |
| 88. Чэрвеньскі . . . | 127 | 23 | 11 | 12 | — | 8 | 12 | — | 6 |
| 89. Чэрыкаўскі . . . | 94 | 64 | 36 | 28 | — | 10 | 51 | 9 | 16 |
| 90. Шклоўскі . . . . | 201 | 91 | 77 | 14 | — | 16 | 61 | 25 | 25 |
| Усяго . . . | 9615 | 6164 | 3410 | 2754 | 49 | 1749 | 3086 | 637 | 1100 |
| У проц. . . | — | 64,1 | 55,3 | 44,7 | 0,8 | 28,4 | 50,1 | 10,3 | 17,8 |

## Ацэнка работы райінспектур Наргасучота за кастрычнік 1936 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыя | Падрыхт. да перапісу насельн. | | Нагуральны рух насельніцтва | Механічны рух насельніцтва | Учот культас-ветн. устаноў | | | | | | | Учот працы | | | По фондах зарплаты за 3 квартал | Квартальны учот па калгасных фермах | Выпіскі з кнігі асноўных паказчыкаў | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Оргплан | Паселеныя карты | | | Дзетсады | Школы ўсеаг. нав. | Школы даросл. | Бібліятэкі | Клубы | Кіноўстаноўкі | Газеты | У прамысловасці | У будаўніцтве | У соўгасах і МТС | | | | |
| 1. Асвейскі . . . | 2 | 4 | 3 | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 5 | 4,4 |
| 2. Асіпавіцкі . . | 4 | 5 | 0 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 3 | 3 | 4 | 4 | 1 | 0 | 1,6 |
| 3. Бабруйскі . . | 3 | 1 | 2 | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 0 | 2,8 |
| 4. Багушэўскі . | 2 | 2 | 2 | 3 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4,0 |
| 5. Барысаўскі . | 4 | 2 | 2 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 1 | 2 | 1 | 3 | 0 | 1,3 |
| 6. Бешанковіцкі. | 2 | 4 | 3 | 3 | 5 | 4 | 0 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 3 | 5 | 3,6 |
| 7. Брагінскі . . . | 2 | 2 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 0 | 4 | 4 | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | 4 | 3 | 5 | 3,6 |
| 8. Буда-Кашал. . | 2 | 2 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4 | 0 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | — | 5 | 5 | 4 | 0 | 3,8 |
| 9. Быхаўскі . . . | 4 | 0 | 3 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 3 | 5 | 4 | 3 | 0 | 1,7 |
| 10. Бягомльскі . . | 4 | 2 | 0 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 4 | 4 | 3 | 1 | 0 | 1,3 |
| 11. Бялыніцкі . . | 2 | 4 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | — | — | 5 | 4 | 3 | 0 | 4,0 |
| 12. Бярэзінскі . . | 4 | 2 | 0 | 5 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 3 | 3 | 3 | 5 | 3 | 3 | 0 | 1,8 |
| 13. Веткаўскі . . | 2 | 5 | 3 | 3 | 4 | 5 | 5 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | — | 5 | 3 | 5 | 0 | 3,6 |
| 14. Ветрынскі . . | 4 | 1 | 0 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 5 | 4 | 3 | 2 | 0 | 1,5 |
| 15. Віцебскі . . . | 2 | 2 | 4 | 5 | 5 | 4 | 0 | 0 | 4 | 5 | 0 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 5 | 3,5 |
| 16. Гарадоцкі . . | 4 | 4 | 0 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 3 | — | 2 | 3 | 3 | 5 | 1,6 |
| 17. Глускі . . . . | 3 | 2 | 2 | 3 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4 | 0 | 4 | 5 | 2 | 3 | 3 | 3 | 3 | 0 | 3,0 |
| 18. Гомельскі . . | 4 | 0 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 4 | 3 | 4 | 4 | 0 | 1,7 |
| 19. Горацкі . . . | 4 | 0 | 3 | 3 | 5 | 4 | 3 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | — | 4 | 3 | 3 | 0 | 2,0 |
| 20. Грэскі . . . . | 4 | 2 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 5 | 5 | 3 | 3 | 0 | 2,0 |
| 21. Даманавіцкі . | 2 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | — | 5 | 4 | 3 | 5 | 3,8 |
| 22. Дзяржынскі . | 4 | 0 | 3 | 5 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 5 | 4 | 4 | 3 | 0 | 1,3 |
| 23. Добрушскі . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 4 | 5 | 2 | 5 | 3 | 3 | 0 | 3,4 |
| 24. Дрыбінскі . . | 3 | 0 | 3 | 3 | — | 5 | 4 | 0 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | — | 3 | 3 | 0 | 0 | 2,8 |
| 25. Дрысенскі . . | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 5 | 3 | 5 | 2 | 3 | 3 | 0 | 3,1 |
| 26. Дубровенскі . | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 0 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 | 0 | 1,8 |
| 27. Ельскі . . . . | 2 | 3 | 3 | 5 | 5 | 5 | 5 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 3 | 3 | 0 | 3,7 |
| 28. Жлобінскі . . | 2 | 2 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | 5 | 3,9 |
| 29. Журавіцкі . . | 3 | 1 | 3 | 0 | — | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | 2 | 4 | 3 | 3 | 0 | 3,1 |
| 30. Жыткавіцкі . | 4 | 1 | 0 | 3 | 5 | 5 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | 2,4 |
| 31. Заслаўскі . . | 4 | 4 | 3 | 5 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 3 | 0 | 4 | 3 | 2 | 0 | 2,0 |
| 32. Камарынскі . | 2 | 4 | 4 | 3 | 5 | 5 | 5 | 0 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 3 | 5 | 4,0 |
| 33. Капаткевіцкі | 2 | 2 | 3 | 3 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | — | 5 | 3 | 3 | 5 | 4,1 |
| 34. Кармянскі . . | 2 | 2 | 3 | 3 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | 3 | 3 | 0 | 3,7 |
| 35. Касцюковіцкі. | 1 | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4,5 |
| 36. Кіраўскі . . . | 3 | 3 | 3 | 5 | — | 5 | 0 | 0 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | — | 5 | 3 | 3 | 0 | 3,3 |
| 37. Клімавіцкі . . | 3 | 2 | 3 | 3 | 3 | 5 | 4 | 0 | 4 | 5 | 0 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 3 | 0 | 3,1 |
| 38. Клічаўскі . . | 3 | 2 | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 0 | 3,0 |
| 39. Копыльскі . . | 4 | 2 | 4 | 3 | 5 | 0 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | — | 4 | 4 | 3 | 5 | 2,4 |
| 40. Круглянскі . . | 2 | 2 | 3 | 3 | — | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 0 | 3,9 |
| 41. Крупскі . . . | 3 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 5 | — | 3 | 3 | 3 | 0 | 2,6 |
| 42. Крычаўскі . . | 3 | 1 | 0 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 4 | 4 | 5 | 0 | 3 | 4 | 4 | 3 | 3 | 0 | 3,1 |
| 43. Лагойскі . . . | 3 | 2 | 3 | 3 | 0 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | — | 4 | 3 | 4 | 0 | 3,0 |
| 44. Лельчыцкі . . | 2 | 4 | 3 | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | — | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | 4,2 |
| 45. Лепельскі . . | 4 | 2 | 3 | 3 | 4 | 0 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 5 | 2,3 |
| 46. Лёзненскі . . | 4 | 0 | 2 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 4 | 3 | 5 | 3 | 3 | 0 | 1,8 |
| 47. Лоеўскі . . . | 2 | 0 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 0 | 5 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 5 | 0 | 3,5 |

| Назва раёнаў | Катэгорыя | Падрыхт. да перапісу насельн | | Натуральны рух насельніцтва | Механічны рух насельніцтва | Учот культасветных устаноў | | | | | | | Учот працы | | | Па фондах зарплаты за 3 квартал | Квартальны ўчот па калгасных фермах | Выпіскі з кнігі асноўных паказчыкаў | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Оргплан | Паселеныя карты | | | Дзетсады | Школы ўсеаг. нав. | Школы даросл. | Бібліятэкі | Клубы | Кіноўстаноўкі | Газеты | У прамысловасці | У будаўніцтве | У соўгасах і МТС | | | | |
| 48. Любаньскі | 3 | 3 | 2 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 3 | 0 | 3,3 |
| 49. Магілеўскі | 4 | 2 | 2 | 3 | 5 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 2 | 0 | 2,1 |
| 50. Мазырскі | 3 | 0 | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 5 | — | 5 | 3 | 4 | 3 | 3 | 5 | 3,1 |
| 51. Менск (горад). | 3 | 0 | — | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 0 | 4 | 4 | 5 | — | 3 | — | 5 | 3,0 |
| 52. Менскі (раён). | 4 | 0 | 0 | 3 | 5 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 0 | 3 | 5 | 3 | 3 | 0 | 0 | 1,8 |
| 53. Мехаўскі | 3 | 2 | 3 | 3 | — | 5 | 4 | 0 | 4 | 4 | 0 | 5 | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 | 0 | 2,7 |
| 54. Мсціслаўскі | 3 | 2 | 2 | 3 | 3 | 0 | 0 | 0 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3 | 3 | 3 | 0 | 2,7 |
| 55. Нараўлянскі | 2 | 4 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 5 | 3 | 5 | 5 | 4,0 |
| 56. Аршанскі | 2 | 4 | 3 | 3 | 5 | 5 | 5 | 0 | 4 | 4 | 0 | 5 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3,5 |
| 57. Парыцкі | 4 | 2 | 0 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 0 | 2 | 3 | 2 | 0 | 1,0 |
| 58. Петрыкаўскі | 2 | 4 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 5 | 3 | 5 | 3 | 2 | 5 | 3,8 |
| 59. Плешчаніцкі | 3 | 3 | 0 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 5 | 4 | 4 | — | 4 | 3 | 3 | 0 | 2,8 |
| 60. Полацкі | 3 | 0 | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 4 | 3 | 5 | 3,0 |
| 61. Прапойскі | 4 | 4 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | — | 5 | 5 | 5 | 5 | 0 | 2,1 |
| 62. Пухавіцкі | 2 | 4 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 3 | 4 | 0 | 4,0 |
| 63. Рагачоўскі | 4 | 3 | 2 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 3 | 5 | 2,4 |
| 64. Расонскі | 3 | 3 | 2 | 3 | 5 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 3 | 3 | 5 | 3 | 4 | 5 | 2,5 |
| 65. Рэчыцкі | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 5 | 4 | 3 | 4 | 0 | 2,3 |
| 66. Свяцілавіцкі | 2 | 2 | 4 | 3 | — | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 3,8 |
| 67. Сенненскі | 4 | 2 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 5 | 3 | 3 | 0 | 0 | 2,3 |
| 68. Сіроцінскі | 2 | 1 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 3 | 5 | 0 | 4,0 |
| 69. Слуцкі | 4 | 2 | 3 | 5 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 2,1 |
| 70. Смалявіцкі | 4 | 4 | 2 | 5 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 2 | 2 | 3 | 2 | 0 | 1,5 |
| 71. Смілавіцкі | 4 | 0 | 3 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 5 | 3 | 4 | 3 | 3 | 0 | 1,8 |
| 72. Старадарожскі | 2 | 5 | 4 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 0 | 3,5 |
| 73. Старобінскі | 4 | 2 | 0 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 2 | 3 | 4 | 3 | 0 | 1,3 |
| 74. Суражскі | 2 | 0 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | 3,5 |
| 75. Талачынскі | 2 | 3 | 3 | 3 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 0 | 3,8 |
| 76. Тураўскі | 2 | 5 | 3 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | 4 | 5 | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4,2 |
| 77. Уваравіцкі | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | 4 | 5 | 0 | 4 | 5 | 5 | 3 | 3 | 0 | 3,4 |
| 78. Уздзенскі | 3 | 5 | 3 | 5 | 4 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 4 | 0 | 3,3 |
| 79. Ушацкі | 4 | 2 | 0 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 | 0 | 1,4 |
| 80. Халопеніцкі | 2 | 1 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | — | 5 | 3 | 4 | 0 | 3,5 |
| 81. Хоцімскі | 3 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | 4 | 0 | 4 | 4 | 5 | 4 | 3 | 5 | 3 | 0 | 3,0 |
| 82. Хойніцкі | 3 | 4 | 4 | 3 | 5 | 0 | 5 | 0 | 0 | 4 | 4 | 5 | 4 | 2 | 4 | 3 | 4 | 0 | 3,0 |
| 83. Церахоўскі | 3 | 2 | 3 | 3 | — | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 2 | — | 3 | 5 | 3 | 0 | 3,0 |
| 84. Чаускі | 2 | 3 | 2 | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3 | 0 | 3,6 |
| 85. Чачэрскі | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 3 | 2 | 5 | 3,3 |
| 86. Чашніцкі | 4 | 0 | 3 | 5 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 5 | 4 | 4 | 3 | 5 | 2,2 |
| 87. Чырвонаполь. | 4 | 0 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 4 | 0 | 0 | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 0 | 1,7 |
| 88. Чырвонаслаб. | 2 | 3 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 0 | 3,6 |
| 89. Чэрвеньскі | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 2 | — | 2 | 3 | 4 | 0 | 3,0 |
| 90. Чэрыкаўскі | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 0 | 0 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 3,5 |
| 91. Шклоўскі | 4 | 2 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 5 | 5 | 3 | 3 | 4 | 0 | 1,9 |

ЗАЎВАГА: 1. Па ўчоту культасветных устаноў па Лепельскаму, Мазырскаму і Слуцкаму раёнах ацэнка дадзена толькі ў адносіне сельскай мясцовасці (без горада).
2. Ацэнка па фондах зарплаты па шэрагу раёнаў некалькі зніжана за адсутнасцю справаздач па райАНА, райЗА альбо райздраву.

